● СПЕЦЗАДАНИЕ

# ЧЁРНАЯ ПОЛОСА

ЕЁ звали Светлана. Было ей 23. И был у неё вместе с красотой ангельский характер и нежный голос. Окончила медучилище. Работала. Потом поступила в Гродненский медицинский институт. Дошла до 4 курса и встретила свою судьбу, тоже будущего врача – Алёшу. Решили пожениться. Сначала сыграли свадьбу в Алешином родном городе, а через неделю она вместе с венчанием должна была состояться в городе, где родилась и выросла Света. Мать и отец её вернулись со свадьбы радостные и сразу окунулись в свои предсвадебные хлопоты. Ездили по городу, закупали продукты. Делились радостью со знакомыми. И не знали, что их Светки, единственной дочери, едва успевшей надеть свадебное платье, уже нет в живых. Когда позвонили из ГАИ города Лиды Гродненской области и сообщили об этом, от постигшего удара они упали на пол. Это было жестоко и невероятно. В это невозможно было поверить. Когда ехали её забирать, мать взяла с собой плед, думая, что согреет им дочь, и она поправится...

На второй день после свадьбы Алеше и Светлане нужно было отправляться на учёбу в Гродно. Потом мать Алеши будет говорить, что пусть бы они поехали поездом, а не на автомобиле. Но тогда хотелось, как лучше. В багажник поставили сумки с продуктами и напитками – ведь нужно было отметить счастливое торжество с многочисленными друзьями, однокурсниками. Вместе с сыном и красавицей-невесткой в путь отправился отец, чтобы помочь детям устроиться в общежитии. Сесть бы ему за руль, может быть, и не случилось трагедии. Но машину вёл Алёша. Путь до Гродно был неблизок. Выехали в 4 часа ночи. О чем думала тогда Светлана, сидя рядом с молодым мужем? Наверное, о чем угодно – о любви, об обрушившемся счастье, о прекрасном будущем – только не о смерти! Но часы, минуты, секунды неумолимо и безвозвратно приближали её к ней. То ли рука дрогнула у Алеши, то ли злодейски подкрался к нему сон, мгновение и, соскочив с шоссе, покрытого тонкой коркой октябрьского льда, машина, поднимавшаяся на мост, пошла в кювет и несколько раз опрокинулась. Жених и отец получили небольшие ушибы, невеста же погибла. Её хоронили в венчальном платье за день до того, как должна была состояться свадьба в квартире её родителей. Пришло-приехало много людей, но чёрной-чёрной оказалась Светкина свадьба.

Вспоминая эту страшную историю, я думаю о том, что все 23 года, сколько жила Светлана на земле, это роковое место на черном шоссе, этот трагический миг всё это время будто поджидал ее и унёс навсегда, безвозвратно и непостижимо.

Дорога. Черный асфальт. Холодний бетон. Для скольких людей она стала роковой? Сколько их, простых смертных, дипломатов, министров, красавиц-актрис, погибло в автокатастрофах и автоавариях. А сколько попадали в ситуации, поставившие их на грань жизни и смерти. И вновь – на чёрной асфальтной ленте дороги.

Недавно знакомые рассказали, что, возвращаясь с дальней поездки по утренней скользкой дороге, их автомобиль с прицепом вдруг вынесло на полосу встречного движения и несколько раз перекрутило. Хорошо, что водитель шедшего навстречу КамАЗа смог предотвратить столкновение. Судьба уберегла. Она есть всё-таки раз одним суждено погибнуть, а другим – выжить в этом бренном мире.

В нашем районе много разных дорог. Но есть крупные. Две автострады Москва–Брест: старая и новая. Проезжая по старой, от Ивацевич в сторону Любищиц и далее, нельзя не заметить большее, чем где-либо количество чёрных ленточек на деревьях и крестов у обочины. Траурные дорожные атрибуты можно встретить и в других местах района, но тем не менее у многих людей сложилось впечатление о том, что этот участок вроде как роковой, уж слишком много там случается автоаварий и гибнет людей. Есть мнение и о том, что это якобы мёртвые мстят живым, потому что песок для этой дороги брали не откуда-нибудь, а из карьера на северной окраине райцентра, где, расстрелянные фашистами, остались лежать в земле вместе с мусором сотни людей. Да и, наверное, русская царица Екатерина-матушка не пожалела крестьянской кровушки, прокладывая в здешних местах в прошлом веке дорогу на запад. Называлась она вроде как Екатерининский проспект, с обеих сторон которого были посажены тополя, дабы благородным дамам и великосветским господам было приятно под их тенью катить в каретах за границу.

А что думает насчёт возможной причастности всевышних сил к горькой дорожной статистике ГАИ – серьёзная служба РОВД, – которая знает жизнь не по мистике, а по реальным фактам? Старший госавтоинспектор ГАИ Владимир Игнатьевич Кваша начисто отверг версию о том, что приходится платить за прошлое. Хотя, согласно статистике, именно на этом участке дороги до 80-х годов этого века в год происходило 40–50 автоаварий. И если эту цифру соотнести с их общим количеством в районе в то время, то результат будет половинный. В 1970 году всех случилось 80 аварий, в 1974 – 86, в 1977 – 84. В 1979 году зафиксировано 69 аварий. Из них 26 опять же приходится именно на участок от Михнович – Ивацевичи до Любищиц. В них погибло 8 человек и 23 получили ранения.

Многие жители района помнят, что именно в эти годы на автостраде, не доезжая до так называемого Вольковского перекрестка, погибли председатель президиума Верховного Совета БССР Сурганов, генерал-лейтенант, командующий авиацией Белорусского военного округа Беда. В начале 70-годов в тех же Любищицах автомобиль первого секретаря ЦК КПБ Машерова сбил пешехода.

13 октября 1979 года случилась трагедия на автодороге около Михнович. Из пятерых человек, ехавших с Белоозерска в „Жигулях" первой модели, четверо погибло. Это были две семьи – отцы и матери, оставившие сиротами своих детей. На этом участке в том же году погибли В. Байбак, А. Черняховский и другие. Гражданин Козленя пытался перебежать дорогу в Любищицах перед близко идущим транспортом и погиб. Такая же судьба постигла и гр. Дубину.

Когда-то погиб здесь и один тракторист. Случались автоаварии и на мосту через речку Гривда. Был случай, когда автомобиль слетел с него и завис внизу на электропроводах. Можно и дальше перечислять автопроисшествия. Их немало. Но такое количество их на роковой дороге В. И. Кваша, проработавший в ГАИ 20 лет, объясняет ничем иным, как её плохим покрытием, узкостью, наличием плотного коридора деревьев. Некоторые из них тоже унесли человеческие жизни.

В 1980 году параллельно старой автодороги открылось движение техники по новопостроенной „олимпийской" трассе, что в какой-то степени разгрузило старую. Кроме того, в 1978 году на ней была проведена реконструкция. Срезали деревья. С шести метров дорогу расширили до девяти. Сменили покрытие. И количество аварий в районе пошло на убыль. Если в 1970 году их было, как мы знаем, – 80, то в 1981 году – 61. Часть из них приходится на злополучный участок, но уже не 40 и не 50, как ранее. Снижение автоаварий в 80-е годы опытный автоинспектор объясняет только наличием этих объективных причин.

Но спустя десятилетие, а именно в наши 90-е годы, опять наметилась тенденция к тому, что на старой автостраде увеличился транспортный поток. Наверняка, многие водители вновь „полюбили" старую дорогу, опасаясь на „олимпийке" рекета и, возможно, боясь постов ГАИ. Кроме того, с ухудшением жизни, наличием транспортных проблем больше стало пешеходов, велосипедистов, мопедистов, гужевого транспорта, что способствует ухудшению аварийного состояния на дороге. Нельзя сказать, что „роковой" участок вновь приобрел прежнюю статистику. Кроме него есть и другие, не менее „опасные" дороги в районе. Но давайте опять обратимся к цифрам. В 1992 году на участке, о котором мы ведем речь, произошло 4 автоаварии, в 1993 – три, в 1994 году – две, в 1995 году – пять. Почти во всех этих случаях есть убитые и раненые.

Нет, по сути, ни одного года, на протяжении которого на участке автодороги Михновичи–Ивацевичи–Любищицы – поворот „дачи" не случилось бы ни одной аварии. В этом, пожалуй, и заключается её тайна, так будоражащая иногда наше человеческое сознание. В чем разгадка к ней? В причинах, указанных выше, в большом количестве населенных пунктов, расположенных по обе её стороны, или в какой-то неведомой силе, которой человек с его машинами и другими транспортными средствами подвластен? А может, в судьбе, которую имеют не только люди, но и дороги? Сколько еще крестов появится на её обочине, сколько траурных лент обовьют стволы деревьев? Ответ на вопрос, наверное, знает один Бог. А мы, люди, как всегда будем беспечно мчаться по ней, наслаждаясь скоростью и жизнью, теша себя единственно присущей всем без исключения иллюзией, что она, жизнь, вечная и что мы тоже вечны, а значит, впереди ещё много прекрасных лет. Наверное, так думала и Светлана, когда ехала навстречу своей гибели.

Л. РУТИЧ.

● АФІЦЫЙНЫ РАДОК

## Ці пажараў стане менш,

ЦЯЖКА СКАЗАЦЬ, АЛЕ ЗМЕНЫ Ў ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ „АБ ЗБОРЫ НА ЎТРЫМАННЕ ПАЖАРНАЙ СЛУЖБЫ" ЎНЕСЕНЫ

Дзейнічаюць яны ўжо з 1 красавіка г. г. і прадугледжваюць льготы, згодна якім зборам не абкладваюцца:

– маёмасць юрыдычных асобаў, а таксама іхніх структурных падраздзяленняў, якія маюць ліцэнзію на папярэджанне і тушэнне пажараў і адпаведную базу для гэтага;

– асноўныя фонды меліярацыйных сістэм і збудаванняў на іх, а таксама асноўныя фонды аб'ектаў гарадскога добраўпарадкавання, якія ўтрымліваюцца за кошт сродкаў бюджэту РБ;

– аўтамабільныя дарогі агульнага карыстання і збудаванні на іх – дзеючыя і тыя, што знаходзяцца ў стадыі незавершанага будаўніцтва, а таксама ўнутрыгаспадарчыя дарогі з усімі іх збудаваннямі;

– пляцоўкі бетанíраваныя, асфальтаваныя, з гравійным і іншым пакрыццём;

– унутрыгаспадарчыя меліярацыйныя сеткі са збудаваннямі на іх, сістэмы арашэння;

– свідравіны для забора вады, воданапорныя вежы, іншыя водазаборныя збудаванні, падземныя і наземныя водаправоды, водапрыёмнікі, вадаёмы, вадасховішчы, пажарныя рэзервуары, дамбы і шлюзы;

– агароджы металічныя, цагляныя, бетанаваныя і з іншых незгаральных матэрыялаў, а таксама помнікі і абеліскі.

Згодна ўстаноўленым змяненням стаўка збора ўстаноўлена цяпер у памеры 0,005 працэнта замест некалішніх 0,0125 працэнта. Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што пры вылічэнні збору на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы асноўныя вытворчыя і невытворчыя фонды, малакаштоўныя рэчы і тыя, якія хутка зношваюцца, прымаюцца па рэшткаваму кошту на пачатак кожнага месяца.

● ЛЕТА ШКОЛЬНАЕ

# ПАД НАГЛЯДАМ ВЫХАВАЦЕЛЯЎ І МЕДЫКАЎ

**ЗНАХОДЗЯЦЦА 25 ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ З'ЕХАЛІСЯ З РОЗНЫХ ВЁСАК НАШАГА РАЁНА Ў ЛАГЕР, ШТО АДКРЫЎСЯ НЕ ТАК ДАЎНО ПРЫ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАЁННАЙ БАЛЬНІЦЫ**

*ДЛЯ гэтай мэты было вызвалена памяшканне другога дзіцячага аддзялення, дзе цяпер і размясціўся дзіцячы лагер санаторна-аздараўленчага тыпу. З'яўленне яго – ініцыятыва райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, які і фінансуе патрэбы лагера. Адметнай асаблівасцю апошняга з'яўляецца тое, што адпачываюць тут дзеці 6-ці–12-цігадовага ўзросту, якія стаяць на медыцынскім уліку і маюць патрэбу ў тым ці іншым лячэнні. А прыехалі яны з Пагор'я і Яглевіч, Дабромысля і Хадакоў, Грыўды і Булы, з іншых калгасных вёсак раёна.*

*– Душа радуецца ад той увагі, якая праяўляецца да дзяцей, – расказвае медсястра Ніна Уладзіміраўна Свігла. – Зірніце на меню: дзеткі спажываюць менавіта тое, што вельмі неабходна іх аслабленым арганізмам, – апельсіны, чарэшню, шакалад. На нашай бальнічнай кухні ім гатуюць асобна, у меню, акрамя свежай садавіны, дастаткова мяса, гародніны.*

*– Дарэчы, – уступае ў размову раздатчыца Тамара Рыгораўна Жукава, – кормім мы дзяцей пяць разоў у дзень. У дзённым рацыёне абавязкова ёсць сокі, малако, кава.*

*– Мы нашых дзетак не толькі добра кормім, але яшчэ і лечым, – працягвае Н. У. Свігла. – Яны праходзяць абследаванне ва ўрачоў, пасля чаго прызначаюцца неабходнае лячэнне альбо тыя ці іншыя фізіяпрацэдуры. У абавязковым парадку дзеці атрымліваюць вітаміны.*

*У час нашай размовы падышлі дзве дзяўчыны – выхавацелькі Іна Леанідаўна Сітнік і Іна Міхайлаўна Шут. Прыслухаўшыся да зместу гаворкі, адна з іх, Іна Леанідаўна, не ўстрымалася, каб не зазначыць, што не хлебам адзіным жывуць іхнія падапечныя. На прайшоўшым гэтымі днямі адкрыцці лагера, да якога, канечне ж, папярэдне рыхтаваліся, дзеці правялі конкурс на лепшае ўпрыгожванне стала, праслухалі цікавы канцэрт, наладжаны самімі ж дзецьмі і выхавацелямі, гулялі ў розныя рухомыя гульні. Наперадзе – развучванне новых гульняў, спаборніцтвы і конкурсы, знаёмствы з цікавымі кніжкамі.*

*Што ўсе мерапрыемствы, прадугледжаныя планам работы лагера, пройдуць на высокім узроўні, дае падставы меркаваць прафесійна-адукацыйная падрыхтоўка выхавацеляў. Скажам, І. М. Шут закончыла музычна-педагагічнае вучылішча. У І. Л. Сітнік – вышэйшая адукацыя, пасля заканчэння Брэсцкага педагагічнага універсітэта яна атрымала дыплом выхавацеля-метадыста. Ды вось бяда, такі ўжо час сёння, што працу па такой спецыяльнасці знайсці аказалася не так проста. Таму і стаіць Іна Леанідаўна вось ужо два гады на ўліку ў раённым цэнтры занятасці, дзе і прапанавалі ёй пакуль часовую работу. Застаецца спадзявацца, што сапраўды "пакуль што", і што з цягам часу І. Л. Сітнік, якая пражывае ў Івацэвічах, знойдзе пастаяннае прымяненне атрыманым ва ўніверсітэце ведам.*

*... Выглянула з-за рэдкіх хмарак сонейка – і запоўніўся дзіцячым рознагалоссем бальнічны двор. Хлопчыкі тут жа пачалі ганяць мяч, дзяўчынкі закружыліся ў карагодзе. Вясёлая для дзяцей пара – лета.*

М. МІКАЛАЕЎ.

● ЗДАРЭННІ

## "А я сяду ў кабрыялет..."

Як магніт прыцягвае металічныя рэчы, так некаторых нашых суграмадзян прываблiваюць чужыя транспартныя сродкі.

У першы летні дзень раніцай жыхар вёскі Любішчыцы А. падышоў да свайго гаража і асслупянеў: дзверы зламаныя, аўтамабіля „ВАЗ-21063" няма. У 6.40 гаспадар звярнуўся ў раённы аддзел унутраных спраў з заявай аб угоне яго легкавушкі. Хадзіць бы яму ў скрусе і прыгнечаным настроі, калі б не аператыўныя дзеянні міліцыянераў. Яны на другі дзень абрадавалі пацярпеўшага: машыну знайшлі каля вёскі ў тэхнічна спраўным стане.

А вось касаўчанін Б., у якога зламыснікі ноччу ў гаражы ўкралі матацыкл „Мінскі", яшчэ хвалюецца: ці знойдзецца яго тэхніка?

Л. САШЫН.



# СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ

*Уважаемые*
*Александр Яковлевич МОСКАЛЮК*
*и Александр Александрович РУБАН!*

*Примите наши искренние поздравления с днём рождения и пожелания крепкого здоровья, семейного благополучия и успехов во всех делах. Благодарим за добросовестную и плодотворную работу.*

*Пусть в Вашем доме будет счастье –*
*Его храните много лет.*
*Здоровья крепкого желаем,*
*И чтоб усталости не зная,*
*Прожить еще Вам много лет.*

*Коллективы торгово-промышленной фирмы „Ивацевичи" и производственно-коммерческого центра.*

***

*Дорогих Константина Константиновича и Марию Фёдоровну ХОРЕВИНЫХ из д. Гривда сердечно поздравляем с золотой свадьбой. Будьте всегда с нами здоровыми и счастливыми!*

*Желаем вам не ведать бед,*
*Не знать ни горя, ни ненастья,*
*И чтоб хватило на 100 лет*
*Здоровья, бодрости и счастья.*

*Большое спасибо за ваши добрые и золотые, не знающие покоя руки, за постоянную заботу, нежность.*

*Дети, внуки, правнучек Андрей.*

***

*От всей души поздравляем с юбилеем ШИМАНЧИК Анастасию Константиновну из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, счастья, семейного благополучия и успехов во всех делах.*

*Пусть этот день морщинок не прибавит,*
*А старые разгладит и сотрёт,*
*Здоровье укрепит, от горести избавит*
*И счастье в дом надолго принесёт.*
*Пусть в доме будут хлеб и соль,*
*Друзья, родные в доме будут,*
*А скука, огорченья, беды, боль*
*Дорогу к дому навсегда забудут.*

*Семья ТАЛЬЧЕНКО.*

***

*Дарагая, любімая наша матуля і бабуля Рыма Абрамаўна ЛОСЬ з Быцені! Прымі нашы шчырыя віншаванні з 50-годдзем.*

*Живи, родная, до 100 лет.*
*Тебя мы любим, уважаем*
*И с днём рожденья поздравляем,*
*Здоровья, радости желаем.*
*Свою любовь, ты это знаешь,*
*Тебе отдать сполна хотим.*
*Для нас ты самая родная,*
*Тебя всю жизнь боготворим.*

*Дзеці, унукі.*

***

*Дарагая наша, любая мамачка і жонка Вольга Фёдараўна СЛІЖ з в. Амяльная! Ад усяго сэрца віншуем цябе з днём нараджэння.*

*Няхай табе сонца заўсёды смяецца,*
*Няхай табе, мілая, усё ўдаецца.*
*Жадаем жа шчасця, здароўя без лекаў,*
*Дабра і спакою, і доўгага веку.*
*Няхай абмінаюць бяда і трывогі*
*І стомы не чуй ад жыццёвай дарогі.*
*Твае заўсёды –*

*дзеці, муж.*

***

*От всего сердца поздравляю свою подружку ПЕСТРАК Ирину Анатольевну из г. Ивацевичи с днём рождения, с 16-летием.*

*Желаю счастья, если оно есть,*
*На этой вечно плачущей планете.*
*И пусть его златая цветь*
*К тебе подкатит в золотой карете.*

*Здоровья тебе, любви, счастья, радости и всего самого-самого хорошего.*

*С уважением к тебе – ЛЕЩУК Оксана.*

***

*Дорогого, любимого мужа, папочку и дедушку Василия Александровича ДЫЛЮКА из д. Подстаринь сердечно поздравляем с 60-летием. Желаем крепкого здоровья, долгих лет жизни, благополучия.*

*Пусть будет счастье, доброта...*
*И с каждым годом будь моложе.*
*И не беда, что множатся года,*
*Что волосы от времени седеют,*
*Пусть будет молодой душа,*
*А души молодые не стареют.*

*Жена, дети, внуки.*

***

*Дасылаем свае шчырыя віншаванні з днём нараджэння жыхарцы в. Ябланка Марыі Аляксандраўне ПЕРАВАЛОЦКАЙ.*

*Жадаем моцнага здароўя,*
*Жыццё любіць і шчаслівець,*
*Ніколі сэрцам не старэць,*
*Заўжды душою маладзець.*

*Пляменніца Вера і яе сям'я.*

***

*Дорогую, любимую, единственную Нину Иосифовну ВОЛЫНЕЦ из г. Ивацевичи сердечно поздравляем с днём рождения!*

*Мы возраст твой считаем не годами,*
*А добротой и лаской. И теплом.*
*И пусть всегда ты будешь с нами*
*За этим праздничным столом.*
*Мы все твоим улыбкам рады.*
*И повторяем вновь и вновь:*
*Пусть будет все тебе наградой –*
*Здоровье, счастье и любовь.*

*Дочь, зять, внучек.*

***

*Дорогую, милую Светлану Ивановну БАСАЛАЙ из Ивацевичей горячо и сердечно поздравляем с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, счастья, радости, успехов и благополучия.*

*Желаем быть всегда красивой,*
*А также доброй и простой,*
*Всегда приветливой и милой,*
*Всегда любимой, дорогой.*
*Пусть каждый день твой светлым будет,*
*Не гаснет пусть твоя звезда,*
*Пусть радость, счастье и удача*
*Тебе сопутствуют всегда.*

*Мама, папа, Оля, Дима, Вадим.*

***

ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ!

Просьба да тых, хто хоча павіншаваць сваіх сваякоў з прыемнай урачыстасцю, дасылаць віншаванні загадзя, за тыдзень да патрэбнай даты.

● СТОП-КАДР



*Паклікала возера.* *Фота П. ЛУЧЫЦА.*

## БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

● *Продаётся корова, возраст 4 года, покрытая, высокоудойная. Обращаться в любое время по адресу: д. Михновичи, ул. Шоссейная, 20, Туркиневич.*

● *Продаётся кухонный гарнитур: стол, 4 табурета с точеными ножками, 6 шкафчиков цветом под орех. Звонить по телефону 2-36-04 с 20 до 21 часа.*

● *Куплю двухкомнатную или большую однокомнатную квартиру. Телефон 2-19-07 (с 8.00 до 17.00).*

● *Продаётся трёхкомнатная со всеми удобствами квартира в г. Ивацевичи. А также стол-книга (в упаковке), новая телевизионная наружная антенна и бывшая в употреблении швейная ножная машина. Телефон 2-14-42.*

● *Меняем трёхкомнатную квартиру общей площадью 65,1 кв. м и жилой площадью 39,3 кв. м в новом доме по улице Черткова, 51 на одну однокомнатную и одну двухкомнатную квартиры. Телефон 2-16-61 (с 8.00 до 17.00).*

● *Продаю блоки силикатные и облицовочную плитку. Телефон 2-16-81 (в любое время).*

● *Сниму однокомнатную квартиру. Телефон 2-45-20 (в любое время).*

● *Продаётся машина „ЗИЛ-157" (бортовая). Цена договорная. Обращаться в любое время по телефону 52-5-80.*

● *Продаются мотоцикл „Минск" новый, в упаковке (цена ниже государственной), а также новый двигатель мотоцикла „Минск". Телефон 32-3-00 (г. Коссово).*



● *Семья из трёх человек снимет однокомнатную квартиру. Звоните, пожалуйста, в рабочее время по телефону 2-46-30.*

● *Куплю одно- или двухкомнатную квартиру в Ивацевичах. Телефоны 35-2-84 и 35-2-45 с 8.00 до 17.00.*

● *Продаю новую прихожую (Пинское производство) и пылесос „Электросила". Цена договорная. Телефон 2-37-12 (после 19.00).*

● *Продаю картофель семенной. Можно на бартер. Телефон 2-37-12 (после 19.00).*

● *Продаётся 1-комнатная квартира общей площадью 35 кв. м в Ивацевичах. Телефон 2-16-31 (после 18.00).*


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 24 чэрвеня ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы". Рэгістрацыйны нумар 1147.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава". Тэлефоны: рэдактара – 2-12-29, карэспандэнтаў – 2-46-30.



Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Індэкс 63959.

Тыраж 2.730 экз. Заказ № 1276.